**№101 (1664)**

Пятніца, 6 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, увечары дождж, уначы — +12...+14; у Брэсце ўдзень — +28...+30, уначы — +13...+15; у Гродне ўдзень — +18...+20, навальніца, уначы — +10...+12, дождж; у Віцебску ўдзень — +21...+23, уначы — +11...+13; у Гомелі ўдзень — +28...+30, увечары навальніца, уначы — +14...+16, дождж; у Магілёве ўдзень — +25...+27, увечары дождж, уначы — +12...+14.

*www.meteo.by*





# У беларускага беспрацоўя — малады жаночы твар




Самае цяжкае — застацца без працы. Гэта значыць без сродкаў для існавання.

Такая страшная перспектыва навісла над многімі беларусамі. Сродкі масавай інфармацыі пастаянна паведамляюць аб скарачэнні рабочых месцаў на прадпрыемствах і росце арміі беспрацоўных.

Па стане на красавік, у службах занятасці стаяла на ўліку 145,7 тысячы беспрацоўных, на 25,8 працэнта болей, чым летась у такі ж час. Агульны паказчык беспрацоўя складае 3,3 працэнта працаздольнага насельніцтва. Летась гэты паказчык раўняўся 2,6 працэнта. Так што рост даволі ўнушальны. Дарэчы, гэтыя лічбы далёкія ад рэчаіснасці. На самай справе беспрацоўных у нас значна болей, проста наша статыстыка не ўлічвае тое, што шмат людзей нідзе не працуюць і не зарэгістраваны на біржы працы. Многія работнікі ўвіхаюцца далёка не поўны працоўны тыдзень, сталі звыклымі вымушаныя адпачынкі па ініцыятыве адміністрацыі. Калі прыплюсаваць гэтую катэгорыю працаўнікоў, якая часова застаецца без работы, дык армія беспрацоўных падвоіцца, а то і патроіцца.

Знайсці свабоднае рабочае месца ў краіне вельмі цяжка. Бо на яго прэтэндуе аж пяць беспрацоўных. А тут яшчэ склаўся вялікі дысбаланс на рынку попыту і прапаноў рабочай сілы. Амаль 78 працэнтаў свабодных працоўных месцаў прызначаны для працаўладкавання рабочых. Між тым шукаюць працу часцей спецыялісты і служачыя. Іх — 36 працэнтаў у арміі беспрацоўных.

Гэта ў цэлым. А ў некаторых месцах яшчэ горш. Напрыклад, у Светлагорскім цэнтры занятасці на адну вакансію прэтэндуе аж дзесяць чалавек. Кепская сітуацыя ў Полацку. Сёлета тут чакаецца каля васьмі тысяч беспрацоўных. Працаўладкаваць удасца не больш за палову. Бо будзе працягвацца скарачэнне рабочых, падаць попыт на кваліфікаваную рабочую сілу.

Абвастраецца сітуацыя на вёсцы. На пачатку года тут было больш за 20 тысяч беспрацоўных, што складае 141 працэнт да ўзроўню 2002 года.

Хто такі цяперашні беспрацоўны? Спецыялісты сцвярджаюць, што ў беларускага беспрацоўя — малады жаночы твар. 63,3 працэнта тых, хто застаўся без працы, — жанчыны. Кожны другі шукаючы працу — чалавек ва ўзросце каля 30 гадоў. Сярод іх 60,6 працэнта маюць сярэднюю адукацыю. Такім чынам, сярэднестатыстычны беспрацоўны Беларусі — гэта жанчына з сярэдняй адукацыяй ва ўзросце 30 гадоў.

У чым прычына росту беспрацоўя? Галоўнае ў тым, што працягваюцца скарачэнні працаўнікоў на буйных прадпрыемствах. Так, летась на віцебскім заводзе "Віцязь" звольнілі 635 чалавек, на заводзе радыёдэталей — 284, на акцыянерным таварыстве "КіМ" — 227 чалавек. Сёлета ў горадзе на Дзвіне мяркуецца скараціць яшчэ 3,8 тысячы працаўнікоў. Калі зараз узровень беспрацоўя на Віцебшчыне складае 4,12 працэнта, дык да канца года ён павысіцца да 4,5 працэнта.

Другая асноўная прычына — малавата ствараецца новых рабочых месцаў. Беспрацоўныя маглі б уладкавацца ў прыватным сектары, у прадпрымальніцкіх структурах, калі б яны паспяхова развіваліся б. Але ж у нас, як вядома, моцна заціскаецца гэты сектар эканомікі, і ў выніку ў ім не столькі з'яўляюцца новыя вакансіі, колькі назіраецца змяншэнне працоўных месцаў.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## В пресс-центре Палаты представителей ротация кадров

В Палате представителей — новый заведующий пресс-центром. На эту должность назначена Екатерина Найден. До этого Екатерина Александровна работала главным специалистом управления организационной работы.

Прежний заведующий пресс-центром Арсений Сакун сейчас — первый заместитель главного редактора "Народной газеты".

**Валерий ЩУКИН.**

## Заказное забойства каштуе 3500 у.е.

Супрацоўнікі аддзела па абароне канстытуцыйнага ладу і барацьбе з тэрарызмам Упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці 3 чэрвеня затрымалі грамадзяніна Беларусі А., які падазраецца ў арганізацыі заказнога забойства на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УКДБ, інфармацыя аб пошуку А. — асобы, якая пагадзілася за 3500 долараў учыніць забойства жыхара Іркуцкай вобласці, паступіла ва УКДБ яшчэ ў красавіку гэтага года. У распрацоўку падазронага быў уведзены супрацоўнік Упраўлення КДБ. 3 чэрвеня А. прыбыў у Брэст для абмеркавання дэталей злачынства, дзе і быў затрыманы групай аператыўнікаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Вынеслі і сейф, і 190 тысяч долараў

Адразу тры дзёрзкія начныя абрабаванні прымусілі грамадскасць горада Барысава змяніць сваё стаўленне да ўстаноўкі ахоўнай сігналізацыі, што прапаноўвае міліцыя. Выкарыстаўшы яе адсутнасць, бандыты ўзламалі дзверы ў кватэры дырэктара камерцыйнага прадпрыемства і вынеслі яго асабісты сейф, у якім, як аказалася, захоўваліся 190 тысяч долараў ЗША — 70 тысяч наяўнымі грашыма і 120 тысяч на банкаўскіх картках на прад'яўніка.

З багатай здабычай пакінулі злодзеі і два прыватныя магазіны — харчовы па вуліцы Усходняй і аўтазапчастак па вуліцы Працы, дзе яны выкралі вялікія партыі тавараў. У барысаўскіх сышчыкаў, якія ўзбудзілі па гэтых фактах крымінальныя справы, узнікае адно пытанне да пацярпелых: няўжо пры нядрэнных даходах у іх не знайшлося сродкаў на ўстаноўку сігналізацыі?

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**



**ЗАКУЛИСЬЕ**

### *Сергей КАЛЯКИН:*

# «Выходя замуж, моя жена знала, что за рулем всегда буду я...»

*В отличие от многих современных политиков, которые не представляют жизни без собственных или служебных авто, первый секретарь Партии коммунистов белорусской* ***Сергей Калякин*** *часто ездит на общественном транспорте. Собственными глазами видела, как Сергей Иванович в элегантном костюме, с мобильником в руках заходил в троллейбус.*

*"Хочу быть ближе к народу", — объясняет политик.*



Как выяснилось, на троллейбусе Калякин возвращался домой после приема, который устраивало посольство Италии в комплексе "Журавинка".

*"Конечно, я не каждый день пользуюсь общественным транспортом,* — говорит Сергей Иванович. — *Однако у меня всегда есть с собой талончики: на всякий случай. На мой взгляд, лучше лишнее переплатить, чем потом сгорать от стыда из-за каких-то двухсот рублей..."*

В трамваях и троллейбусах народ почему-то узнает коммунистического лидера реже, чем, скажем, на Комаровском рынке. *"Со мной часто здороваются люди, с которыми я совершенно не знаком, но они меня знают,* — говорит Калякин. -- *Поначалу это ставило меня в неловкое положение, но со временем ко всему привыкаешь".*

В рабочее время Сергей Калякин пользуется услугами партийного водителя.

*"Я и сам прекрасно вожу машину, но решение ездить с водителем было принято в целях безопасности. В нашем государстве всякое случается...",* — объясняет он.

Личное авто Калякина — "Волга". *"Мне нравится эта машина,* — признается Сергей Иванович. — *У меня, кстати, уже вторая "Волга". Иномарки мне не совсем по душе. На них хорошо ездить по асфальту, а я часто выезжаю в деревню, много езжу по бездорожью. "Волга" позволяет это делать. К тому же она довольно неприхотлива: в отличие от тех же иномарок, ее обслуживание стоит дешевле".*

За руль "Джипа", которому все дороги по плечу, Калякина не тянет. *"Сегодня на "Джипах" в основном ездит определенный класс людей,* — считает коммунист. — *А я хочу быть ближе к народу. Впрочем, все это дело вкуса. Выбирая машину, я не думал, кто и как к этому будет относиться".*

Калякин говорит, что свою "Волгу" не поменяет ни на какую другую машину. *"Лишь в крайнем случае — на "Ауди-100" или "Вольво",* — подумав, добавляет он.

Супруга Сергея Ивановича машину не водит. *"Выходя замуж, моя жена знала, что за рулем всегда буду я",* — твердо и уверенно произносит Калякин.

А вот дочь первого секретаря Партии коммунистов Белорусской в ближайшее время намеревается получить водительские права. *"Сейчас у нее сессия, поэтому есть проблемы со временем,* — объясняет Сергей Калякин. — *Но у дочери настойчивый характер. Думаю, ее желание сесть за руль в ближайшее время все-таки будет реализовано".*

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

**ИНИЦИАТИВА**

# За свободную Беларусь!

### *В стране создан первый демократический блок «За свободную Беларусь».*




*Дмитрий Бородко, Ирина Красовская, Андрей Санников, Юрий Хащеватский, Леонид Малахов, Валерий Щукин и Валерий Дранчук — за "Свободную Беларусь!".*

*Как заявили члены Совета блока, основная причина его создания — полное внешнее и внутреннее банкротство действующей в Беларуси власти и политической системы. Главная цель — приход демократических сил к управлению страной.*

Блок "Свободная Беларусь" открыт для присоединения всех граждан, которые разделяют его принципы, вне зависимости от их партийной принадлежности. По словам одного из создателей "Свободной Беларуси", координатора "Хартии'97" **Андрея Санникова**, "Свободная Беларусь" будет принципиально отличаться от уже существующих в стране политических партий и движений уже потому, что в него *"войдут ЛИЧНОСТИ, которые могут что-то делать и уже доказали это".*

*"Я не замечаю у партий нацеленности на победу, что странно для той ситуации, которая сложилась сегодня",* — заявил Санников.

Сколько человек уже вошло в "Свободную Беларусь", члены Совета не сказали. *"Мы сейчас работаем, ведем переговоры,* — пояснил Андрей Олегович. — *Обещаем: когда придет время, мы назовем все фамилии".*

Члены Совета блока объявили, что будут использовать все возможности, чтобы избрать 110 человек, которые примут участие в парламентских выборах.

Как известно, минувшие выборы в Палату представителей Андрей Санников активно призывал бойкотировать. На вопрос *"Ваша позиция была ошибочной?"* экс-заместитель министра иностранных дел ответил так *"Та позиция не была ошибочной. Тогда просто была другая ситуация. Было важно бойкотировать парламентские выборы для того, чтобы через участие демократических сил не произошло признание и легитимизация всей системы власти Беларуси... Сейчас другие подходы...".*

Ограничиваться только участием в парламентских выборах демократический блок "Свободная Беларусь" не намерен.

*"Мы будем разрабатывать стратегию развития нашей страны и призывать всех принять в этом участие",* — сказал Санников.

Так, "Свободная Беларусь" намеревается заняться подготовкой кадрового реестра будущего правительства Беларуси, способного обеспечить управление государством в современных условиях, вернуть Беларусь в Европу.

Демократический блок "Свободная Беларусь" пока не зарегистрирован.

**Ирина КРАСОВСКАЯ,**
*кандидат педагогических наук, супруга похищенного в 1999 году белорусского бизнесмена Анатолия Красовского:*

— Я — за свободную Беларусь.

Хочу, чтобы я, мои дети, мои соседи, мои друзья, мои коллеги, чтобы все мы жили в свободной стране. Хочу, чтобы каждый из нас мог говорить все, что думает. И чтобы никто не пострадал за то, что думает не так, как думает власть.

Я очень хочу знать, что произошло с моим мужем Анатолием Красовским, с Виктором Гончаром, с Юрием Захаренко, с Дмитрием Завадским. Я считаю, что эта власть показала свою несостоятельность не только в управлении государством, но и в элементарном расследовании дел об исчезновении этих людей. За четыре года власть так и не выяснила, что с ними случилось. Власть не реагирует на наши запросы, на запросы международных организаций, ОБСЕ, Совета Европы, Европарламента, ООН. Поэтому остается только одно — избрать новую власть, которая начнет свою деятельность с расследования этих исчезновений. Я считаю, что развитие демократии в Беларуси может начаться только с этого. Поэтому я — за свободную Беларусь, за свободные выборы и за новую власть.

**Андрей САННИКОВ,**
*экс-заместитель министра иностранных дел, координатор "Хартии'97":*

— В начале 90-х годов у нас было больше шансов определиться с европейским путем развития нашей страны, чем у наших соседей — стран Балтии. Сегодня у нас еще есть шансы стать частью Европы. И если мы не воспользуемся этим, то будет виноват не Лукашенко, а мы с вами. Поэтому мы и решили создать блок, состоящий из личностей независимо от их принадлежности к каким-то организациям, из личностей, которые разделяют принципы независимости и демократии, которые готовы изменить ситуацию в стране и сменить власть.

**Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ,**
*кинорежиссер:*

— Меня все спрашивают: что ты лезешь в политику, зачем ты все это делаешь? У каждого человека есть какие-то простые желания. Кто-то хочет построить дом, кто-то хочет писать книги. Я хочу снимать кино. Вот давайте разберемся с моим желанием: могу я это делать или нет? Я уже не говорю, что меня каждый мент может ударить дубиной за то, что я несанкционированно выхожу на улицу. Но у меня есть вопрос: почему у нас есть масса талантливых людей, которые не могут снимать кино? Ответ: потому что в этой обстановке абсолютного уничтожения всех проявлений человеческой инициативы, при невежественной, малокультурной власти ничто создаваться не может. Поэтому я считаю, что нам необходимо сломать этот порядок и заняться делом.

**Валеры ДРАНЧУК,**
*эколаг, галоўны рэдактар часопіса "Белавежская пушча":*

— На працягу васьмі гадоў я быў у баку ад палітыкі, займаўся выдавецкай, экалагічнай дзейнасцю, але цяпер бачу, што выказвацца трэба парламентарна. Нашай прыродзе надышоў час выказавацца парламентарна. Я маю на ўвазе, што абарона прыроды павінна быць на самым высокім узроўні. Сёння прырода безабаронна. І людзі, якія спрабуюць яе абараніць, таксама безабаронныя. Прыклад — Белавежская пушча. Гэта наша святыня, самы вялікі еўрапейскі лес. Абараніць яго ў тых умовах, у якіх мы знаходзімся, — вельмі цяжка. Таму я абедзвюма рукамі прагаласаваў за тое, каб стварыць такі блок. Мы павінны разам думаць пра тое, як абараніць нашу Беларусь. На мой погляд, у будучы парламент павінны прыйсці людзі, якія будуць абараняць нашыя зялёныя біясферныя каштоўнасці.

Янка Купала цудоўна сказаў: *"Мы, нацыя, народ, павінны ў рэшце рэшт людзьмі звацца...".* Сапраўды, мы павінны людзьмі звацца ў Еўропе, у свеце.

**Леонид МАЛАХОВ,**
*один из лидеров предпринимательского движения:*

— Проработав в малом бизнесе 10 лет, я стал свидетелем различных этапов развития в Беларуси предпринимательства: зарождения, становления и уничтожения. За эти годы мы испробовали различные формы борьбы за свои права: забастовки, пикеты, акции протеста и обращения в различные инстанции. В результате мы перестали верить в справедливость действующей власти, мы убедились, что произвол в отношении предпринимателей происходит с одобрения самого высокого уровня. Поэтому я считаю, что ситуацию можно изменить только совместно. Только забыв обо всех разногласиях, действуя сообща, можно добиться результата.

**Валерий ЩУКИН,**
*депутат Верховного Совета 13-го созыва:*

— Я участвовал в предыдущих выборах в местные органы власти. Победить на этих выборах демократы не смогли по одной простой причине: каждый действовал разрозненно. Поэтому только объединенными усилиями можно победить. Без жесткой централизации, без координации прийти к власти нельзя. На парламентских выборах тем более необходимы согласованные действия. Если демократы выйдут с едиными кандидатами по округам, значит, у нас появятся шансы победить. Для этого мы и создали блок.

### *КРИТИЧЕСКИЙ ВЗГЛЯД*

Во время презентации "Свободной Беларуси" корреспондент российского телевидения засомневался, что новый демократический блок сможет что-то изменить: мол, народ устраивает такая жизнь, люди в большинстве своем боятся и не хотят перемен. Эту реплику создатели "Свободной Беларуси" восприняли довольно эмоционально: *"Да Вы проедьте в общественном транспорте, поговорите с людьми!.."*

Журналист парировал: ***"В Праге попытались закрыть телецентр — на площадь вышло около миллиона человек. Закрыли "Белорусскую деловую газету" — на площадь вышло лишь несколько человек. На ваши митинги ходят лишь две-три сотни человек. На мой взгляд, это серьезный показатель".***

Внимательно выслушав, Андрей Санников ответил: *"Мы хотим сделать так, как в Праге: чтобы на площадь вышли миллион человек".*

**Александр ФЕДУТА,**
*президент общественного объединения "Социальные технологии":*



*— Заявить можно что угодно. Однако нового президента приведет только тот, кто соберет под него сто тысяч подписей и зарегистрирует их.*

*Лозунг демократического блока "Свободная Беларусь" — хороший лозунг. И люди, которые туда вошли, например, господин Хащеватский, госпожа Красовская — приличные, честные люди. Но я не знаю, как они согласились вступить в союз с некоторыми политическими неудачниками и хитрецами. Любой человек, который прочитает список членов оргкомитета, поймет, кого я имею в виду...*

*Если они рассчитывают, что им удастся оседлать партийные структуры, то они глубоко ошибаются. Можно, конечно, выставить 110 человек на парламентские выборы, но как они разойдутся с теми 110, которые будут согласованы партиями? Или группы будут фигурировать как самостоятельные субъекты? Не верю в то, что господа Вечерко, Лебедько и Статкевич с этим смирятся...*

**Марина КОКТЫШ.**

# «Раўнапраўе» па-рыбакоўску

*У канцы 2001 года ў лісце на імя старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава кіраўнік Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў бадзёра сцвярджаў: "...У Белтэлерадыёкампаніі існуе рэальнае раўнапраўе дзвюх дзяржаўных моў: беларускай і рускай". Праз два месяцы ў гутарцы з карэспандэнтам газеты "Звязда" ён выказаўся яшчэ больш рашуча: "Мы паставілі задачу несці з экрана сапраўдную беларускую мову... Пастаўлена задача, каб БТ загаварыла на сапраўднай беларускай мове..." Чытаў я гэта ўсё і радаваўся — нарэшце роднае тэлебачанне і радыё стануць узорным асяродкам беларушчыны пад кіраўніцтвам маладога, энергічнага старшыні, "спецыяліста ў галіне беларускай мовы і літаратуры", як ён сам адрэкамендаваўся ў размове з журналісткай...*



*— Дык дзе ж, спадар Рыбакоў, сапраўдная беларуская мова?*



*— Цану вашых слоў, шаноўныя начальнічкі, мы добра ведаем.*

Прайшло не так многа часу (хаця і дастаткова для таго, каб гучныя дэкларацыі падмацаваць рэальнымі справамі, яркімі перадачамі) — і што ж мы бачым і чуем? Беларускае слова, "узорнае, нават класічнае", як абяцаў шаноўны Ягор Уладзіміравіч, так і не адваявала сабе законнае месца на тэлеэкранах і ў эфіры суверэннай Рэспублікі Беларусь. З тэлепраграм практычна знікла сучасная айчынная літаратура, супрацоўнікі рэдакцый, не чырванеючы, раз-пораз блытаюцца ў элементарных правілах граматыкі і фанетыкі, а тэксты інфармацыйных паведамленняў па асаблівасцях стылю смела могуць спаборнічаць з армейскімі статутамі і інструкцыямі па прымяненні хімікатаў. Больш таго, родная наша мова памалу знікае з многіх тэматычных перадач і амаль не запрашаецца ў новыя праекты. Яна ўсё відавочней робіцца адчапным "арнаментам", фармальнай данінай распрапагандаванаму ў нас дзвюхмоўю, як, напрыклад, у музычным фестывалі "На скрыжаваннях Еўропы". Калі б узяць у рукі хранометр і прыдзірліва зафіксаваць, колькі часу гучаць з экрана беларуская і руская мовы, паказчыкі, не сумняваюся, былі б вельмі красамоўныя.

Толькі што ж у гэтым дзіўнага? Нейкі час таму, парушаючы агульнапрызнаныя прафесіяналамі ўсяго свету прынцыпы так званага моўнага рэжыму вяшчання, у "Панараме" і іншых выпусках навін, якія пакуль што (у адрозненне ад АНТ і СТБ) ідуць па-беларуску, як толькі на экране з'яўляецца зусім знаёмы дзеяч, рэпарцёры хуценька пераходзяць на рускую мову. Не разумею, дзе тут хітра схаванае ідэалагічнае "ноу-хау" ці вялікая палітыка, але не заўважыць у гэтым факце наўмыснага, дэманстратыўнага ігнаравання дзяржаўнай беларускай мовы пры ўсім старанні ніяк не магу. Зусім нядаўна такога ж сумніўнага "гонару" ўдастоіліся каментары палітычных аглядальнікаў і... спорт. Пра засеяныя палеткі і сабраныя на канвееры трактары, пра адкрыцці вучоных і выдатныя музейныя экспазіцыі, пра пасяджэнні ўрада і судовыя рашэнні, аказваецца, можна расказваць па-беларуску, а вось пра галы, ачкі, секунды — нельга, тут абавязкова патрэбна мова Пушкіна і Талстога. Чаму? Дзе тут здаровы сэнс і проста прафесійны падыход?..

Дарэчы, папулярныя журналісты, якія нядрэнна валодаюць беларускай мовай і многія гады ў сваіх выхадах на экран карысталіся ёю, дружна пераходзяць на мову суседзяў, якая і так штодня гучыць у хатах нашых землякоў ажно на пяці каналах. Уладзімір Навіцкі ўжо зусім забыўся на сваю "рабочую мову" і з апошняга чэмпіянату свету па хакеі ўсе рэпартажы вёў выключна па-руску, што, між тым, так і не дапамагло выхаванцам Уладзіміра Крыкунова не прайграць усё, што можна. Аляксандр Дамарацкі не адчувае няёмкасці, калі ў праграме "Святло далёкай зоркі" пра выдатных майстроў нацыянальнай культуры гаворыць выключна па-руску поруч з беларускамоўнымі паэтамі і народнымі артыстамі... Што гэта — прыкрая выпадковасць ці неразумная самадзейнасць "вольных працаўнікоў эфіру"? Ведаючы дастаткова жорсткія парадкі на нашым ідэалагічным фронце, не думаю...

Ну і лагічным дасягненнем Ягора Рыбакова ў забеспячэнні "рэальнага раўнапраўя" моў у Белтэлерадыёкампаніі стала ягоная зусім "свежая" задумка закрыць вяшчанне адзінай у Мінску беларускамоўнай FM-станцыі "Сталіца" і арганізаваць на яе частаце новую, вядома ж, рускамоўную радыёстанцыю. Тут ужо, каб і хацеў засумнявацца ў сапраўдных пазіцыях амбіцыйнага выпускніка Магілёўскага педінстытута, дык не атрымаецца — факты гавораць самі за сябе...

А якія былі добрыя словы, якія высакародныя намеры, якія грандыёзныя планы!..

Вось і вер пасля гэтага нашым дзяржаўным мужам, вось і чакай ад іх выканання прынародных абяцанняў, вось і не сумнявайся ў іхняй шчырасці і адказнасці!

Як недарэчны жарт успрымаюцца сёння запэўніванні ўсмешлівага Ягора Рыбакова паўтарагадовай даўнасці: "Я... абедзвюма рукамі за беларускую мову". Цану гэтых слоў мы ўжо добра ведаем. Ці, можа, нехта, яшчэ больш рашучы і ўплывовы, чым ён, мёртвым вузлом звязаў яму абедзве маладыя, дужыя рукі?.. Тады — яшчэ маркотней...

**Генадзь БУРАЎКІН.**

## Прафсаюз патрабуе павелічэння заробку

Арганізацыя Беларускага незалежнага прафсаюза АТ "Гродна Азот" звярнулася да кіраўніцтва канцэрна "Белнафтахім" з патрабаваннем павялічыць тарыфную стаўку першага разраду.

Апошняе павелічэнне заробку на прадпрыемстве адбылося 20 красавіка 2002 года. "Адміністрацыя спасылаецца на інструкцыю, якая з'яўляецца базай пры налічэнні заработнай платы. Але 30 красавіка ў гэтую інструкцыю былі ўнесены змены. Цяпер рашэнне аб павелічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду можа прыняць кіраўніцтва канцэрна" — гаворыць Сяргей Антусевіч.

Працоўныя вырашылі накіраваць ліст з патрабаваннямі непасрэдна кіраўніку канцэрна Івану Бамбізе. Тэкст звароту быў зацверджаны на агульным сходзе прафсаюза.

"Людзі ўжо даведзены... і калі нас не пачуюць, тады нас убачаць", — сказаў Антусевіч.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Для тых, хто цікавіцца гісторыяй

Пачынаючы з чэрвеня, ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" аднаўляе працу гістарычнага семінара для моладзі Мінска. З цікавымі паведамленнямі аб мінулым і сучасным нашай сталіцы выступяць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі, сярод іх — Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.

Першая сустрэча — 9 чэрвеня ў сядзібе ТБМ па вул.Румянцава, 13. Пачатак у 18.30. Уладзімір Арлоў распавядзе пра старадаўні Менск у творах беларускіх пісьменнікаў і прэзентуе сваю новую кнігу "Ордэн белай Мышы". Даследчыца Людміла Дзіцэвіч паведаміць пра развіццё беларускай мовы ў XX ст. і дзейнасць ТБМ.

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**

## Вайцюшкевіч заспяваў Камоцкага



Сёння песні знакамітага барда Алеся Камоцкага будзе співаць не менш знакаміты спявак беларускага андэграунда Зміцер Вайцюшкевіч. Будзе ён гэта рабіць а 19-й гадзіне ў Доме ветэранаў.

**Зміцер Вайцюшкевіч:** "Зараз вельмі многія выконваюць гімны, маршы, улёткі, а я лічу, што нашым людзям не хапае нармальных песень, каб можна было проста ехаць у машыне і слухаць. Гэтым мне і падабаюцца вершы Алеся Камоцкага, яны вельмі вобразныя".

Праграму назвалі "Поры года", складаецца яна з 12 песень, але сёння прагучаць толькі восемь з іх. Поўнасцю праграму прадставяць восенню.

Акрамя песень на вершы Камоцкага, у праграме прагучаць песні з музычных праектаў "Народны альбом", "Святы вечар", "Я нарадзіўся тут", а таксама песні на вершы Уладзіміра Караткевіча.

**Павел АРЦЮШКЕВІЧ.**

## Супермарафон завітае на Беларусь

10—14 чэрвеня па тэрыторыі Беларусі пройдуць тры этапы транс'еўрапейскага лёгкаатлетычнага супермарафону Лісабон—Масква, які пачаўся з 19 красавіка і завершыцца 21 чэрвеня. Супермарафон арганізаваны нямецкай фірмай "Вауег".

Як паведаміў 4 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску беларускі супермарафонец Аляксандр Кізіл, гэты самы доўгі прабег у свеце працягласцю 5017 кіламетраў праходзіць праз 8 краін і 15 гарадоў, у ліку якіх Парыж, Брусель, Кёльн, Берлін, Варшава, Мінск.

19 красавіка з Лісабона (Партугалія) стартавалі 49 бегунов з 14 краін свету (42 мужчыны і 7 жанчын), самаму маладому з іх 29 гадоў, самаму старэйшаму — 63 гады. Удзельнікі бягуць з багажом не больш чым 20 кілаграмаў з кароткімі прыпынкамі кожныя 10 кіламетраў для падмацавання сіл і на 6—7 гадзін на сон, прычым не абавязкова ў гатэлях. Да гэтага часу з дыстанцыі па розных прычынах сышлі 25 чалавек. Астатнія бягуць дзвюма камандамі. Хуткасная каманда прабягае адзін кіламетр за 5—6 хвілін, іншая каманда — за 7—9 хвілін. Такім чынам, пераможца супермарафону прабяжыць усю дыстанцыю за 480—490 гадзін, зазначыў А.Кізіл.

Паколькі ўзнос для ўдзельнікаў марафону складаў 3 тысячы еўра, беларускія бегуны не змаглі выставіць свае кандыдатуры.

10 чэрвеня ўдзельнікаў марафону ўрачыста сустрэнуць ля паста ДАІ ў Брэсце, дзе да іх далучацца спартсмены мінскіх клубаў аматараў бегу. Да мяжы з Расіяй супермарафонцы будуць спыняцца ў Кобрыне, Івацэвічах, Баранавічах, Стоўбцах, Мінску, Барысаве, Крупках і Оршы. У Мінску, Барысаве і Крупках бегунам арганізуюць урачыстыя сустрэчы з выступленнем самадзейных калектываў, у сталіцы 10 чэрвеня яны возьмуць удзел у прэс-канферэнцыі.

**Лавінія АРЭШКА.**

## З Верхнядзвінска — у Інтэрнет

*Урадавае рашэнне зрабіць Верхнядзвінскі раён палігонам для выпрабавання адзінага стандарту сацыяльных паслуг прымусіла мясцовую адміністрацыю распачаць дзейнасць па ўдасканаленні бытавых умоў жыцця насельніцтва і павышэнні ўзроўню сацыяльных паслуг.*

Першым этапам работы стала аднаўленне станцыі абезжалезвання вады і будаўніцтва новых ачышчальных магутнасцяў. У выніку верхнядзвінская пітная вада, утрыманне жалеза ў якой раней перавышала норму ў 30 разоў, стала адпавядаць стандарту.

Кіраўніцтва раёна не толькі арыентуецца ў аздараўленні сацыяльнай сферы на замежныя ўзоры, але і абапіраецца на замежную дапамогу. Амерыканскі фонд "Каўнтэрпарт" па гуманітарнай лініі паставіў медыцынскае абсталяванне, якое дазволіла на сучасным узроўні аснасціць рэанімацыйнае аддзяленне раённай бальніцы. Нядаўна завершаны рамонт палiклінікі, стаматалагічнае аддзяленне якой абсталявана наваейшай імпартнай тэхнікай.

Менш стала ў раёне скаргаў на дрэнную тэлефонную сувязь: у райцэнтры і нават у некаторых вёсках з'явіліся таксафоны, а ў жніўні для ўсіх, хто пажадае, адкрыецца выхад у Інтэрнет.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Інвестары, ау!

Гэты кліч раз за разам даносіцца з калідораў беларускай улады. Ён гучыць моцна і прыцягальна. Але яго амаль ніхто не чуе. Ні на Захадзе, ні на Усходзе. Патоку інвестыцый у беларускую эканоміку так і не назіраецца. Нядаўна нават сарваўся адкрыты конкурс па продажы пакета акцый прадпрыемстваў нафтахімічнага комплексу.



*Немалыя сродкі маглі б укласці ў развіццё вытворчасці прадпрымальнікі і простыя грамадзяне краіны. Але што выкраіш з такой сумы на інвестыцыі?*

**Фота IREX/ProMedia.**

Замест таго каб прааналізаваць сітуацыю і выявіць прычыны, па якіх замежныя інвестары не заўважаюць Беларусь, ды зліквідаваць іх, беларускія ўрадаўцы вырашылі яшчэ раз гучна клікнуць: "Інвестары, ау!". Як паведамляе агенцтва БелаПАН, Міністэрствы эканомікі і замежных спраў краіны сумесна з рабочай групай па фарміраванні інвестыцыйнага іміджу Кансультацыйнага савета па замежных інвестыцыях пры Савеце міністраў вырашылі падрыхтаваць прапановы ўраду наконт інвестыцый. Якія ж яны? А вось паслухайце. У Беларусі ёсць агенцтва садзейнічання замежным інвестыцыям (БАЗІ). Яно было створана яшчэ ў 1996 годзе. А вынікі? Ды кот наплакаў. Як заначыў намеснік міністра эканомікі Леанід Дзямідаў, яго праца нікога не задавальняе. Агенцтва працавала пад эгідай Міністэрства замежных спраў. І вось цяпер — перадаць Міністэрству эканомікі. Улоўліваеце, якая глыбокая рэарганізацыя? Аказваецца, уся бяда ў тым, што тое агенцтва было пад падпарадкаваннем аднаго міністэрства, а цяпер перададуць яго пад крыло другога, і ўсё пойдзе на лад. Як жа адразу не здагадаліся пра такое?

Другі вывад такі: залог поспеху згаданай структуры — добрае фінансаванне яе самой. "У іншых краінах, у тым ліку з развітай эканомікай, на фінансаванне працы гэтых структур выдзяляюцца сур'ёзныя бюджэтныя сродкі, — цытуе БелаПАН начальніка аддзела інвестыцыйнага супрацоўніцтва дэпартамента каардынацыі знешнеэканамічнай дзейнасці МЗС Беларусі Віктара Філатава. — Калі дзяржава лічыць прыцягненне інвестыцый прыярытэтным накірункам, то павінна быць прыярытэтам і фарміраванне адпаведнай інфраструктуры, уключаючы нармалізацыю працы нацыянальнага агенцтва па іх прыцягненні". Словам, калі ўрад хоча, каб агенцтва прыцягвала інвестыцыі, дык "бабкі на стол" самому агенцтву. Прычым такі заклік наконт "бабак" зроблены не толькі ўраду, але і "замежным інвестарам і зацікаўленым беларускім прадпрыемствам і канцэрнам".

Чытаеш такое і міжволі думаеш: "Няўжо адказныя асобы сур'ёзна разлічваюць на поспех пасля такіх заяў і заклікаў?".

Наогул, стварэнне нейкіх камісій і штабоў — даволі модны навеў беларускіх улад. Зусім нядаўна, 22 сакавіка гэтага года, мы ўжо пісалі пра стварэнне ўрадам камісіі па павышэнні канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі. Тады ж адзначалі: "Ну дык зразумелі, чаму ў нас да гэтага часу не ўсё добра з павышэннем канкурэнтаздольнасці эканомікі? Бо не было адпаведнай камісіі. Вось створаць яе, і ўсё стане лепей. Але чаму вырашылі займець адну камісію? Хіба ў нас добра ў іншых сферах жыцця?.. Давайце ствараць спецыяльныя камісіі па пенсіях, па вывазе ўгнаенняў на палі...".

Відаць, ва ўрадзе і міністэрствах пачулі нашу прапанову. Бо ўжо ў наступным месяцы, у красавіку, прыйшло паведамленне аб стварэнні міжведамаснай камісіі па падтрымцы і развіцці малога прадпрымальніцтва. У яе склад увайшлі віцэ-прэм'ер-міністр эканомікі Андрэй Кабякоў, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў, першы намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Мікалай Ярохаў, міністр па падатках і зборах Канстанцін Сумар, іншыя прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў. Як бачыце, склад унушальны. Але ўжо гэтай вясной пачалі скарачацца шэрагі прадпрымальнікаў і пусцець буйнейшыя сталічныя рынкі. Толькі ў Мінску паменела дробных гандляроў амаль на 20 тысяч чалавек.

І вось цяпер — рэарганізацыя агенцтва садзейнічання замежным інвестыцыям, а па сутнасці стварэнне новай структуры, у задачу якой уваходзіць павышэнне інвестыцыйнага іміджу Беларусі і прыцягненне ў краіну капіталаў. Ці дапаможа?

Помніцца, такім метадам спрабавалі вырашаць усе праблемы ў былым СССР. Узнікалі цяжкасці з забеспячэннем насельніцтва рыбай, агароднінай... тут жа стваралі ведамствы ці міністэрствы па рыбе, агародніне. Чыноўніцкія структуры раслі, як грыбы пасля дажджу, але ні рыбы, ні агародніны не большала. Ці не тое самае будзе з інвестыцыямі, развіццём прадпрымальніцтва і павышэннем канкурэнтаздольнасці эканомікі?..

Няўжо адказным асобам да гэтага часу не зразумела, што туды, дзе сваіх прадпрымальнікаў абзываюць "вшивыми блохами" і душаць падаткамі і бюракратычнымі путамі ды закрываюць газеты і саджаюць у турмы журналістаў, у такую краіну сур'ёзныя замежныя інвестары не пойдуць? Колькі агенцтваў па іміджы ні ствараЙ і як гучна ні крычы: "Інвестары, ау!".

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Ганаруся сваім бацькам

Прачытаў у "Народнай волі" артыкул паважанага сябра беларускай моладзі, цудоўнага дзядулі Валерыя Шчукіна "Апошні званок... для беларускай мовы". Вялікі дзякуй! Прызнацца, ён мяне не здзівіў. І ўсё таму, што падобныя рэчы характэрны і для маёй школы.

У гэтым годзе я таксама выпускнік. Думаю, кожны, хто прайшоў праз гэтыя дні, будзе памятаць іх назаўжды. Усё запісваецца на відэакамеру, здымаецца на фотаапараты ды і адбіваецца ў галовах настаўнікаў, вучняў і бацькоў. Таму ўсё павінна быць на вышэйшым узроўні, каб потым не было сорамна. А мне пасля адзначэння свята сорамна... Не за сябе.

Я, здаецца, сваю ролю ў нашым аматарскім дзействе выканаў нядрэнна. Сорамна за атмасферу, якая была ў школе. І гэтую атмасферу стварала не родная, мілагучная, ласкавая **наша** беларуская **мова**, а расійская. І не трэба мне гаварыць, што ў нашай любай Беларусі руская мова таксама з'яўляецца дзяржаўнай. Мы, моладзь, жадаем памятаць наша свята **беларускім**!!!

Толькі 5 хвілін гучала бацькоўская мова (ва ўсіх сэнсах). На роднай мове выказаў свае пажаданні ад імя ўсіх бацькоў мой родны бацька. Звычайна старэйшыя ганарацца сваімі дзецьмі за нейкае дасягненне. А я, сын, ганаруся сваім бацькам. Ганаруся за просты, але вельмі значны ўчынак. Гэтыя словы на мове маёй Радзімы застануцца ў сэрцы назаўсёды. Канешне, кожныя бацькі павінны несці любоў да роднай мовы сваім дзецям. Гэта натуральна. Але, на вялікі жаль, такая з'ява вельмі рэдкая.

Віншую ўсіх выпускнікоў-2003 з **іх** святам. Хачу пажадаць ім самага, на мой погляд, галоўнага: сябры, не забывайце родную мову. Нясіце яе па сваім жыцці, і толькі ў гэтым выпадку вы будзеце сапраўднымі дзецьмі сваёй галоўнай маці — Беларусі.

**Юрась БУСЕЛ,**
**беларускі выпускнік-2003.**

## Вандалы ў Курапатах



*...Вандалы зноў наведаліся ў Курапаты. Не дае ім спакою, што тут, пад хвоямі, паўстае Народны некропаль — лес крыжоў у памяць ахвяр сталіншчыны. І што ў гэтай мясціне быў усталяваны мемарыяльны знак — дар беларускаму народу ад народа ЗША. "Лава Клінтана" (на здымку) трушчылася ўжо не раз. Некалькі дзён таму — зноўку.*

*Але нікому не дадзена вытравіць з памяці людской злачынстваў супраць уласнага народа ні ў 30—40-я, ні ў сённяшнія дні.*

ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ

# Паланэз Агінскага ў вершах паэта

*Паэт выдаў кнігу. Добры паэт. Выдатны майстар слова. І кніга добрая. У ёй — шчырая споведзь-роздум аб жыцці уласнай душы і лёсе Радзімы.*





— Вось і цудоўна! — усклікнеце вы, — як жа без лірычнага промня нават і не ў самы, так бы мовіць, лірычны час.

Канешне, ніяк, хто ж спрачаецца. Але... Падзяляючы вашу, шаноўныя прыхільнікі паэзіі, радасць, не магу пры гэтым і не ўздыхнуць. І міжволі мушу засмуціць вас: нідзе — ні ў кнігарнях, ні ў бібліятэках — вы не знойдзеце гэтага выдання нават пры ўсім жаданні і ўпартасці пошукаў. (Менавіта таму давялося змяніць нашу звыклую для такога кшталту нататак рубрыку-рэкамендацыю "Прачытайце".)

У чым жа справа, напэўна, пажадаеце ведаць вы. Тады — давайце спачатку, толькі больш дэталёва.

...Народны паэт Ніл Гілевіч выдаў кнігу твораў, што публікаваліся ў перыядычным друку адразу пасля іх напісання на працягу 1996—2002 гадоў і ўвабралі подых сучаснасці і мінулага Беларусі. **"Паланэз Агінскага"** — назва кнігі па аднайменнай уключанай у яе драматычнай паэме, знакамітага на ўвесь свет Паланэза нашага слыннага земляка-папярэдніка Міхала Клеафаса Агінскага...

Але зноў чую ваша настойліва-недаўменнае "чаму?". Чаму новыя творы народнага паэта не могуць сёння трапіць у рукі тых, хто любіць і шануе выдатнага творцу і грамадзяніна, пільна цікавіцца плёнам яго нястомнай працы? Чаму кнігі лепшых майстроў нацыянальнай літаратуры, у тым ліку і Ніла Гілевіча, не выходзяць шматтысячнымі тыражамі, наталяючы нязводную людскую прагу духоўнасці і прыгажосці? Без іх жа — не жыццё, а існаванне.

Але наклад кнігі — 100 (сто!) паасобнікаў. Не, вас не падвялі вочы: *усяго 100.* Цяпер зразумелі, чаму ў самы момант выхаду ў свет гэты зборнік ужо стаў рарытэтам, бібліяграфічнай рэдкасцю? А дакладней, дык і зусім фантомам, шлях якога да шырокага чытача папросту перакрыты.

На шчасце, я трымаю томік у руках. І прашу паверыць мне, як ні шкада, на слова: тут — толькі невялічкая частка таго, што зроблена паэтам цягам апошняга часу. Гартаеш старонку за старонкай — нізку вершаў пад агульным назовам "І спытае суд высокі", паэмы "Лодачкі" і згаданы ўжо "Паланэз Агінскага" — зноў і зноў пераконваешся: перад намі творца магутнай сілы, шматгранны талент. У галоўным ён усё той жа — з нязменнай, магістральнай для яго тэмай Радзімы, з нязменным памкненнем да мастацкай выразнасці і дасканаласці. І разам з тым — усё больш глыбокі ў асэнсаванні рэчаіснасці, у пранікнёнай мудрасці, знітаванай з нерастрачанай маладой акрыленасцю.

Многае змясціла ў сабе невялічкая кніга: само жыццё, вірлівае, супярэчлівае, непадзельнае ў сваёй светлацені. І скрушна-горкае паэтава "Як сцюжна дыхнула бяздоннем", і невыказна-пяшчотнае "Калі б не голас твой...", і поклічна-рамантычнае "Чытайце зоры!". І — спрадвечную музыку трапяткой, адданай Бацькаўшчыне душы, што жыве ў неўміручых гуках

Адказ напрошваецца сам сабою. Таму што сапраўдная паэзія з яе зарадам праўды і свабодалюбства не запатрабавана сённяшняй дзяржавай. Вось красамоўнае таму сведчанне: нядаўна ўганароўвалі лаўрэатаў дзяржаўных прэмій, і сярод іх не аказалася ніводнага беларускага паэта ці майстра прозы, вартага, на думку высокага кіраўніцтва, такой узнагароды. А ў нас жа, акрамя паважанага літаратурнага "аксакала" Гілевіча і яго ных не менш даравітых паплечнікаў, творцаў старэйшага веку, нямала бліскучых, самабытных пісьменнікаў розных пакаленняў.

Вось і выйшла адзіная за шэсць гадоў (калі не лічыць выбраных твораў) новая кніга народнага паэта смешным накладам у 100 паасобнікаў і аб'ёмам усяго ў 138 старонак. Ды і выйшла за кошт... самога аўтара, цаной некалькіх ахвяраваных ім дзеля гэтага пенсій. Бо іншых фінансавых магчымасцей як адмовіць сабе ў самым нават неабходным у паэта, што служыць не ўладзе, а Бацькаўшчыне, няма. І не можа быць.

"Затое — кніга! — аптымістычна ўсклікае Ніл Сымонавіч і жартуе: — Ды яшчэ і страйнейшы стану". Ён вельмі ўдзячны шчырым сваім маладзечанскім сябрам, з дапамогай якіх у серыі "Бібліятэчка часопіса "Куфэрак Віленшчыны" выдадзены гэты не зусім звычайны томік.

Няўжо нехта ўсё ж спадзяецца "закрыць" спеўную музыку беларускай паэзіі? Дарэмна. Напісанае, як вядома, застаецца на вякі. Пераканаўчы, блізкі да нас прыклад сведчыць: некалькі стагоддзяў у адным старажытным германскім манастыры, пад горамі друзу быў пахаваны адзіны экземпляр рукапісу з філасофскай вакальна-харавой паэмай аб сэнсе чалавечага жыцця і непераможнасці праўды. І вось дзіва: рукапіс знайшлі, старадаўні музычна-паэтычны шэдэўр быў пакладзены ў аснову славутага беларускага балета пад назвай "Карміна Бурана". Тысячы і тысячы гледачоў, у тым ліку і з-за межаў Беларусі, глядзяць і захапляюцца ім...

Ну, а ў нашым выпадку — не адзін экземпляр, а цэлых сто! Так што не бядуйце, шаноўныя аматары прыгожага пісьменства. Будуць (будуць!) лепшыя часы — і творы нацыянальных творцаў дойдуць да ўсіх, хто не глухі і не сляпы сэрцам. Дык давайце ж разам пажадаем шаноўнаму Нілу Сымонавічу добрага здароўя і новага багатага плёну словамі ягонага ж верша:

*Трымайся, таварыш!*
*На родным загоне*
*Яшчэ ты не скончыў*
*работу сваю...*

А ў дарунак вам, прыхільнікі творчасці Ніла Гілевіча, — некалькі вершаў з яго апошняй кнігі "Паланэз Агінскага".

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

## *Ніл ГІЛЕВІЧ*

### Я глядзеў

*Я глядзеў на краскі ў лузе майскім:*
*Як зырчаць яны ў густой траве!*
*І ў той вязі, што сплялі краскі,*
*Прачытаў я: Беларусь жыве!*
*І гукнуў ад радасці: браты!*
*Вось ён — сімвал нашай праваты!*
*І калі хто духам паў у скрусе —*
*Учытайся ў красак вязь на лузе!*

*Я глядзеў на белае каменне,*
*Што з раллі тырчала па зіме.*
*І з тых белых знакаў на імгненне*
*Словы ўзніклі: Беларусь жыве!*
*І гукнуў я з радасці: браты!*
*Вось ён — сімвал нашай праваты!*
*І калі каго ўзяло сумненне —*
*Глянь пільней на белае каменне!*

*Я глядзеў на неба зорны купал,*
*На зіхоткі пыл у сіняве,*
*І па зорках у бліскучых купах*
*Прачытаў я: Беларусь жыве!*
*І гукнуў ад радасці: браты!*
*Вось ён — сімвал нашай праваты!*
*Божы знак! І калі з вас каторы*
*Траціць веру стаў — чытайце зоры!*

*1997, верасень*



### Калі б не ты...

*Даруй мне ўсё,*
*што можаш дараваць,*
*А што не можаш —*
*памалюся Богу,*
*Мо ён даруе, перш чым скіраваць*
*Маю душу ў апошнюю дарогу.*
*Мая душа... Якая толькі дрэнь*
*Не сілілася завалодаць ёю!*
*Каб у бязмоўны, безаблічны цень*
*Ператварыць. Каб не была маёю.*

*І, можа, так бы й сталася даўно,*
*Калі б не ты, мой ангел-выратоўца.*
*Калі б не голас твой і не яно —*
*Табе адненькай ведамае слоўца.*

*1997, верасень*

### У чаканні крыгалому

*Гэта здарыцца, напэўна,*
*На світанні... На світанні*
*Трэсне радасна і гнеўна*
*Гром у пойме, за сялом.*
*Я павінен гэты момант*
*Не праспаць ні ў якім разе*
*І пачуць на слых уласны,*
*Што пачаўся крыгалом.*

*І пабачыць, і пабачыць,*
*Як вада напорна хлыне,*
*Разняволеная ўрэшце*
*Ад аковаў ледзяных.*
*Прыгажэйшага на свеце*
*Я відовішча не знаю,*
*Чым пачатак крыгалому,*
*Чым свабоды першы міг.*

*1970. 1999.*

